Пролетарыі ўсіх краін, злучайцеся!

# ГАНДЛЁВЫ БЮЛЕТЭНЬ

НАРКАМУНУТГАНДЛЯ БССР

РЭДАКЦЫЯ І КАНТОРА

г. Менск, Дом Урада, леваекрыло, 4 паверх, комн. № 405.

Тэл. № 23-287.

№ 1 (37) | Год выдання 2-гі | 15 студзеня 1936 г. | № 1 (37)

**І. І. ВЕРБА.**

## ЗА РАЗГОРНУТЫ ГАНДАЛЬ ДАСТАТКОВЫМІ ТАВАРАМІ

Асаблівасцю совецкай экономікі на даным адрэзку часу з'яўляецца значнае абагачэнне краіны таварамі.

Не гледзячы на тое, што ў краіне ёсць багацце хлебапрадуктаў, цукру, кандзіцерскіх вырабаў, солі, запалак і іншых тавараў першачарговага масавага попыта, у радзе магазінаў гэтых тавараў няма.

Совецкі пакупнік з сваімі якасна і колькасна ўзросшымі патрабаваннямі ў радзе выпадкаў не можа задаволіць свайго попыта ў гэтых таварах.

Фактаў, пацвярджаючых гэта палажэнне, можна прывесці надзвычай многа.

У крамах Меркулавіцкага сельпо Рагачоўскага раёна адсутнічаюць такія тавары масавага попыту, як соль, цукар, гаспадарчае мыла і інш. гаспадарчыя тавары.

У гэтым-жа Рагачоўскім раёне паасобныя магазіны Белхарчгандлю, Гарпо, Белгандлю і Райпродмага не гандлююць соллю.

Такое-ж становішча наглядаецца ў гандлёвай сетцы Шклоўскага, Бабруйскага і Бягомльскага раёнаў, якая сабатуе гандаль соллю, запалкамі і інш. таварамі масавага спажывання.

Праверкай устаноўлена, што гандлёвы апарат у паасобных гарадах таксама працягвае цапляцца за гандаль тымі таварамі абмежаванага асартымента, які гарантыруе яму хуткі збыт гэтых тавараў, ігнарыруючы гандаль дастатковымі таварамі. У радзе магазінаў Белхарчгандлю і ЦРК у Гомелі адсутнічаюць: цукар, соль, запалкі, перац, лаўровы ліст і г. д.

Аб зусім недастатковым разгортванні гандлю гэтай групай тавараў сведчаць таксама даныя аб іх удзельнай вазе ў звароце буйнейшых гандлёвых сістэм. Дастаткова паказаць, што ў чакаемым звароце Белкаапсаюза за 1935 год, кандзіцерскія вырабы складаюць усяго толькі 5%, соль—1,3%, галантарэя—3,1%, мебля—0,9% і г. д. У звароце ОРС'а Лесбела кандзіцерскія вырабы складаюць—2,6%, галантарэя—0,8%, мебля—0,1% і г. д.

Усе прыведзеныя вышэй факты з'яўляюцца неапраўяргальным доказам прамога сабатажа паасобнымі звенямі гандлёвага апарата гандлю дастатковымі таварамі. Прынцыпы культурнага совецкага гандлю зусім не вычэрпваюцца толькі пытаннямі ўнутранага і знадворнага афармлення магазінаў, вежлівага абыходжання прадаўцоў з пакупнікамі і г. д. Без поўнага насычэння гандлёвай сеткі разгорнутым асартыментам тавараў і без поўнага задавальнення запросаў працоўнага пакупніка на ўсе неабходныя яму тавары— няма і неможа быць культурнага совецкага гандлю.

Адсутнасць у гандлёвай сетцы тавараў штодзённага попыта знаходзіцца ў вапіючай супярэчнасці з прынцыпамі культурнага совецкага гандлю і не можа быць цярпіма ў будучым. Сабатажнікаў гандлю дастатковымі таварамі трэба караць з у... быць вялікую адказнасцю совецкага закону. кітны ад-

Стварэнне ў кожным магазіне ўстойліва... настайнага асартымента тавараў з'яўляецц... ннем прэ- шай задачай гандлёвага апарата на бліжэ... скалванні Ажыццяўленне гэтай задачы цяснейшым чы... іпацца; зана з выкананнем плана таваразварота... д павінен квартал. Гэты план зможа быць выканан... апускной тады, калі гандлюючыя арганізацыі прыстасуюць павінен сваю работу да новай змяніўшайся абстаноўкі... забяспечаць шырачайшы і рознастайны асарт... м, без тавараў, здольны задаволіць узросшыя заг... авінен совецкага пакупніка.

У гэтых мэтах рэспубліканскія і гарадскія кал... гандлюючых арганізацый павінны давесці да... нага магазіна план таваразварота ў патава... ць беразрэзе, які дапамог-бы яму ў справе арган... роўны бесперабойнага гандлю ўсімі таварамі ма... попыта. рымесі

Неабходна таксама ў кожным магазіне ст... ронніх асартыментныя кнігі, у якіх пакупнік меў-бы... чымасць адлюстраваць свае нараканні на тых... вошчуп гандлю, якія не могуць або не хочуць... на па- гібкімі ў адказнейшай і важнейшай справе за... нення патрэб шырачайшых мас працоўных. павінен

Органы Наркамунутгандля на месцох ... аць к су- ўзяць у свае рукі справу гандлю дас... таварамі. Трэба прама сказаць, што ў гэ... работа большасці Горрайунутгандляў н...

Такое становішча ў далейшым працяг... Аб'ём і маштаб работы Горрайунут... каласальна ўзрасло.

Горрайунутгандлі абавязаны сістэматычна правяраць ці ёсць у магазінах тавары па ўстаноўленаму для данага магазіна асартыментнаму мінімуму. Пры выяўленні недахопа якіх-небудзь тавараў, Горрайунутгандлі не могуць абмежавацца адной толькі фіксацыяй факта, а павінны расследваць прычыны адсутнасці тых ці іншых тавараў, якія прадугледжаны асартыментным мінімумам па данаму магазіну.

Толькі тады, калі Горрайунутгандлі і работнікі ўсіх гандлюючых сістэм возьмуцца канкрэтна, апіраючыся на стаханаўцаў савецкага гандля, за гэты важнейшы ўчастак, магазін будзе мець свой устойлівы асартымент і свайго сталага пакупніка.

# У НАРКАМУНУТГАНДЛІ БССР

◆ Наркамунутгандлем БССР устаноўлена цана на каўказскія нестандартныя яблыкі „Паша“ у размеры 1 р. за кгр.

◆ Загадам па Наркамунутгандлю БССР абвешчана вымова старшыні Барысаўскага ЦРК т. Вініцкаму за невыкананне загада Наркамата Унутранага Гандля БССР аб адчыненні магазіна па гандлю мясам. Тав. Вініцкаму прапанавана на працягу пяці дзён адчыніць магазін.

◆ Наркамунутгандаль БССР абавязаў Магілеўскі ЦРК да 20/1—36 г. адчыніць на тэрыторыі Аўтарэмзавода культурны магазін па гандлю харчовымі таварамі.

◆ Рознічная продажная цана на сушаныя слівы „Венгерка“ устаноўлена ў размеры 9 руб. за кгр.

◆ Аптова-адпускная цана на тамат-пасту двайной канцэнтрацыі ўстаноўлена ў размеры 1 р. 90 к. за кгр. Франка-завод, рознічная продажная цана—2 р. 30 к. за кгр.

◆ Па пастанове Наркамунутгандля БССР гандаль мандарынамі павінен праводзіцца ва ўсіх рэстаранах, ... і буфетах па адзінай рознічнай цане.

... нскі магазін „Торгсина“ № 1, згодна рашэння ... унутгандля, перададзены Менскаму ГУМ‘у пад ... нівермага „Дзіцячы мір“. Абсталяванне ма... авінна быць закончана не пазней 1-га сака... 6 г.

... паведна рашэнню ўрада, Наркамунутгандаль ... устанавіў нормы водпуска ў адны рукі: мукі— ... кгр., крупы—да 2 кгр., макарон—да 2 кгр. ... ы аб нормах водпуска на паказаныя прадукты ... ны быць вывешаны ва ўсіх магазінах.

◆ Наркамунутгандаль БССР перадаў Менгорспажыўсаюзу будаўніцтва новага магазіна ў 3-м Доме Саветаў з тым, што абсталяванне магазіна будзе закончана да 5 лютага 1936 года.

◆ Аптова-адпускная цана на мяккія цукеркі „Красный флот“ і „Секрет“, выпрацоўваемыя Бабруйскай арцеллю „Энергия“, сістэмы Белхарчпромсаюза ўстаноўлена ў размеры 8 р. 50 к. за кгр. франка-арцель вытворчасць.

◆ Наркамунутгандаль БССР прапанаваў Белканторы Саюзсольсбыт арганізаваць фасоўку солі ў Віцебску і Гомелі, а ў Менску расфасоўку солі праводзіць на заводзе „Чырвоны хімік“. Асноўныя гарады БССР будуць забяспечаны фасаванай соллю.

◆ Праверка насычанасці гандлёвай сеткі крухмалам, павідлам і варэннем па Менску паказала адсутнасць гэтых дастатковых тавараў па раду магазінаў Горспажыўсаюза, Харчгандля і Плодагароднінагандля. Наркамунутгандаль БССР абавязаў кіраўнікоў ЦРК, дырэктароў Белхарчгандля і Белплодагароднінагандля, начальнікаў ОРС‘аў на працягу пяці дзён забяспечыць магазіны дастатковай колькасцю павідла, варэння і крухмала. Адсутнасць гэтых тавараў у магазінах у далейшым пацягне за сабой прыцягненне вінаватых да адказнасці.

Горунутгандлям прапанавана сачыць за тым, каб гандлёвая сетка была насычана гэтымі дастатковымі таварамі.

◆ Наркамунутгандлем БССР устаноўлена рознічная цана на курагу І-га сорта ў размеры 8 р. 50 к. за кгр., ІІ сорта—7 р. кгр., на урук-хасак ІІ сорта—2 р. 50 к., ІІІ сорта—2 руб. кгр.

# У Канвенцыйным Бюро Наркамунутгандля БССР

... а паседжанні Канвенцыйнага Бюро 16 снежня ... г. устаноўлены наступныя адпускныя цэны ... вытворчасць) на вырабы Белкаапромсовета ... лкаапінсаюза:

... чоткі для падлог „Сарго“ разм. 21×5, 5×2, ... ацоўвае менская арцель „2-я пяцігодка“—1 р. 45 к. ... туку.

... пкі вушанкі з штучнага меха і суконнага верха, ... цоўвае арцель бабруйскага швейпромсаюза, ... ад 56 да 60—6 р., 55 і ніжэй—4 р. 75 к.

... эйпромсаюзу прапанавана звярнуць увагу на ... панне пашыва шапак вушанак. Продаж шапак ... к з штучнага меха з баваўняна-папяровым ... звязку з дрэннай якасцю пашыва—забаронен ... іх пастаноўлена не ўстанаўліваць.

... вучнёўскія з гранітолі, унутраная аклей... а-папяровая ткань, з замком і ... тамі, размер 34,5×26, выпрацоўвае ... ль „Чырвоны Рымарнік“—8 р. 60 к.

**Сумкі** вучнёўскія, фанерныя, пакрыты каленкорам, на пражцы, знутры аклеены паперай, абіты цвікамі з шырокімі галоўкамі, размер 30×22,5×7, выпрацоўвае гомельская арцель „Чырвоны Рымарнік“ 4 р. 65 к.

**Партфелі**—каляровага гралікса, знутры баваўняна-папяровая ткань, з замком і 4-мя кутамі, размер 33×24, выпрацоўвае арцель „Чырвоны Рымарнік“—15 р. 80 к.

Арцелі прапанавана выпускаць партфелі з больш лепшым падборам колера матэрыяла (менш яркага).

**Вяроўкі** з луба, паклі і ільняных адыходаў, васьмірычныя, разм. 12—14 м/м, выпрацоўвае арцель „Прагрэс“ (м. Ляды)—2920 р. тона.

**Вяроўкі** з паклі, трайнік, разм. 12—14 м/м—1930 р. тона, вяроўка з катаніны шасцярык, таўшч. 12 м/м—3660 р. тона.

Канвенцыйным бюро ўстаноўлены таксама цэны на швейныя вырабы, выпрацоўваемыя арцелямі Менскага Швейпромсаюза.

# АФІЦЫЙНЫ АДДЗЕЛ

## Правілы гандля цукрам

*(Зацверджаны пастан. НКУГ СССР ад 16/XII—35 г. № 1388).*

### 1. Агульныя палажэнні

1. Гандаль цукрам праводзіцца ў спецыялізаваных бакалейных магазінах і бакалейных палатках, а таксама ў бакалейных аддзяленнях змешаных прадуктовых магазінаў і секцыях харчовых аддзелаў і змешаных (прод. і промтаварных) сельскіх магазінах.

2. Магазіны, якія гандлююць цукрам, павінны будаваць сваю работу на падставе культурнага абслугоўвання пакупніка, у адпаведнасці з павышанымі патрабаваннямі яго да якасці цукра.

3. Магазіны павінны праводзіць адпаведныя мерапрыемствы па забеспячэнню правільнай расстаноўкі рабочай сілы і ўшчыльнення рабочага дня работнікаў прылаўка, павышаючы пры гэтым якасць абслугоўвання пакупнікоў. У прыватнасці, пры рабочым дні магазіна больш 8 гадзін у дзень, неабходна, каб у часы максімальнага наплыва пакупнікоў у магазіне работала найбольшая колькасць прадаўцоў, памяншаючы іх колькасць у гадзіны адносна ціхага гандля.

4. Заг. магазінамі абавязаны забяспечыць праходжанне ўсімі работнікамі ўстаноўленага тэхмінімума па гандлю цукрам і сістэматычна павышаць іх кваліфікацыю.

### 2. Снабжэнне

5. Магазіны, палаткі і бакалейныя аддзяленні прадуктовых магазінаў, гандлюючых цукрам, абавязаны не пазней чым за 10 дзён да пачатку месяца даваць сваёй вышэйстаячай арганізацыі заяўку на неабходную колькасць цукра зпаказаннем сорта, падлягаючага дастаўцы ў магазін, палатку і т. п.

6. Водпуск цукра з гандлёвых баз у магазін і палатку праводзіцца па заяўках апошніх і ў адпаведнасці з колькасцю і сартамі, паказанымі ў заяўцы.

7. Дастаўка цукра ў магазін (палатку) і яго прыёмка ў гадзіны гандлю не павінна парушаць нармальнай работы магазіна па абслугоўванню пакупніка.

8. Дастаўка цукра ў магазін (палатку) павінна праводзіцца як правіла, да пачатку работы магазіна.

9. Магазін і палатка, гандлюючыя цукрам, абавязаны мець цукар усіх сартоў: колаты, пілены, пясок, пудра і т. п. і ў колькасці, дастатковай для задавальнення попыта пакупнікоў.

10. Не дапускаецца перавозка цукра транспартнымі сродкамі, быўшымі ў карыстанні пры перавозцы тавараў, якія астаўляюць пасля сябе пах, без папярэдняй добрай ачысткі транспартных сродкаў.

11. Перавозка цукра без дастатковай ізаляцыі ад вельмі пахучых тавараў (селядцоў, мыла і інш.)— катэгарычна забараняецца.

### 3. Прыёмка

12. Прыёмка цукру ў магазіне праводзіцца дырэктарам магазіна ці асобамі, спецыяльна вылучанымі для гэтай мэты.

13. У мэтах забеспячэння хуткай прыёмкі цукра магазінам павінна быць загадзя прыгатавана месца для прыёмкі і неабходнае для прыёмкі абсталяванне (вагі і т. п.).

14. Прыёмка цукра праводзіцца па колькасці месц, вазе і па якасці, прычым у першую чаргу праводзіцца зверка атрыманага тавара з данымі суправаджальных дакументаў.

15. У выпадку неадпаведнасці дастаўленага цукра даным суправаджальных дакументаў, прыёмшчыкам складаецца адпаведны акт з удзелам здатчыка і прадстаўніка профарганізацыі.

16. Недобраякасны ці неадпавядаючы стандартам ці тэхнічным умовам (кандыцыям) цукар магазінам не прымаецца.

17. Пры якаснай прыёмцы цукру павінна быць звернута ўвага на адпаведнасць яго наступным паказчыкам:

#### Па цукру-рафінаду:

а) колер (бялізна): цукар-рафінад павінен быць белага колера, без плям. Дапускаецца блакітны адценак;

б) цвёрдасць: цукар-рафінад (за выключэннем прэсаванага) павінен быць цвёрдым, пры раскалванні павінен адкалвацца кавалкамі, а не рассыпацца;

в) сухасць: на вошчуп і на від рафінад павінен быць зусім сухім. Пакладзены на аркуш прапускной ці папяроснай паперы кавалак цукра не павінен астаўляць вільготнай плямы;

г) пах і смак: цукар павінен быць салодкім, без горачы і староннягa прысмака, цукар не павінен мець ніякага староннягa паха.

#### Па цукру-пяску:

а) колер (бялізна): цукар-пясок павінен быць белага колера, без жоўтых адценкаў і мець роўны блеск;

б) чыстата: цукар-пясок не павінен мець прымесі цукернай пудры і якіх-бы там ні было старонніх прымясей;

в) сухасць: цукар-пясок павінен быць на вошчуп зусім сухім і пры ссыпцы ў невялікую кучу на паперы павінен рассыпацца, а не распаўзацца.

Сухі цукар-пясок пры сціску ў руцэ не павінен ператварацца ў камок і не павінен прыліпаць к сухой руцэ.

Цукар-пясок не павінен мець ком'яў з злежаўшагася цукра;

г) смак і пах: цукар павінен быць салодкім, без горачы і якіх-бы там ні было старонніх прысмакаў. Цукар-пясок не павінен мець ніякага староннягa паха.

18. Пастаўшчык ці гандлёвая арганізацыя, ад якой магазінам атрыман цукар, абавязан неадкладна даслаць недастаўлены і замяніць забракаваны тавар.

19. Прыняты магазінам цукар павінен быць неадкладна размешчан у падсобным памяшканні для хавання, а таксама ў гандлёвай залі магазіна, у колькасці, неабходнай для непасрэднага продажу.

## IV. Хаванне

20. Падсобнае памяшканне магазіна, гандлюючага цукрам, павінна быць зусім сухім і добра вентылюемым.

21. Для папярэджання цукра ад вільготнасці, мяшкі з цукрам павінны хавацца на насцілах, прычым цукар складаецца паасобна па сартах у штабелі вышынёй для кускавога, піленага і прэсаванага не больш 6 мяшкоў і для пяска 7—8 мяшкоў.

Паміж штабелямі павінен заставацца праход не менш 0,75 метраў.

Цукар ні ў якім выпадку не павінен укладвацца непасрэдна да сцен памяшкання: паміж сцяной падсобнага памяшкання і штабелем з цукрам павінна быць адлегласць не менш 20 см.

22. Хаванне цукра ў падсобным памяшканні радам з таварамі, маючымі спецыфічны пах—катэгарычна забараняецца.

23. Цукар у падсобным памяшканні належыць не радзей 2 разы ў месяц аглядаць, звяртаючы асаблівую ўвагу на наяўнасць цечы ў мяшках, на паяўленне цёмных вільготных плям і т. д.

Мяшкі, у якіх знойдзены якія-небудзь дэфекты, павінны быць падвергнуты перакладцы.

24. У падсобным памяшканні, дзе хаваецца цукар, павінна быць выдзелена асобае месца для складвання мяшкоў з-пад цукра, якія павінны здавацца ў тэрміны па ўказанню вышэйстаячай гандлёвай арганізацыі.

25. Барацьба са шкоднікамі і грызунамі ў падсобным памяшканні, дзе цукар знаходзіцца, павінна весціся рэгулярна па меры іх выяўлення.

## V. Арганізацыя продажу

26. У гандлёвым залі цукар раскладваецца на паліцах ці высыпаецца ў лары і скрыні па-сортна. Цукар можа прадавацца і з мяшкоў, устаноўленых на сцелажах. Сорт і цана ўказваюцца на ярлыку. Лары і скрыні абавязкова павінны мець крышкі.

27. Пры водпуску цукра належыць карыстацца чыстымі саўкамі.

Не дапускаецца карыстанне аднымі і тымі-ж саўкамі для водпуска цукра і інш. прадтавараў (мука, крупа і т. д.).

28. Водпуск цукра пакупнікам праводзіцца чыстай вагой.

29. Пры продажу цукра-рафінада водпуск цукравага пылу ў лік вагі не дапускаецца. Водпуск мелачы ў лік вагі цукра дапускаецца не звыш $1\frac{1}{5}$ % у колатым цукру і не звыш 3% у кускавым цукру (пад мелаччу разумеюць астаткі вагой менш 5 гр. кожны).

30. Магазін абавязан прыняць меры к забеспячэнню пакупнікоў расфасаваным цукрам.

31. Расфасоўка можа праводзіцца спецыяльна вылучанымі для гэтай мэты работнікамі прылаўка ў гадзіны гандлю, але толькі ў перыяд зацішша.

32. Цукар павінен быць выстаўлен па сартах у вітрынах гандлёвага зала такім чынам, каб было добра відаць пакупніку.

33. Пры водпуску пакупніку нерасфасаванага цукра ўзважванне, а таксама ўпакоўка павінна праводзіцца на віду ў пакупніка.

34. Для збірання адыходаў цукра (у відзе крошкі і пылу) пад прылаўкам павінны быць чыстыя сухія скрыні.

Забруджаныя адыходы (выбарка і смётка) павінны збірацца ў паасобную тару. Паказаныя адыходы павінны здавацца ў тэрміны па ўказанню вышэйстаячай гандлёвай арганізацыі для пром. пераапрацоўкі.

> Увага. Водпуск пакупнікам адыходаў ад цукра— катэгарычна забараняецца.

## VI. Санітарны стан магазіна

35. Саўкі, якімі карыстаюцца ў магазіне, павінны штодзённа да пачатку гандля абмывацца гарачым содавым растворам і насуха выцірацца чыстым ручнікам.

36. Перад пачаткам і па сканчэнні гандлю павінна быць зроблена поўная ўборка магазіна (палаткі).

> Увага. Для падмятання падлогі можна ўжываць сырыя апілкі, якія, аднак, не могуць заставацца на падлозе ў якасці насціла.

37. Адзін раз у квартал у магазіне павінна праводзіцца дэзінфекцыя згодна інструкцыі сан. інспекцыі.

38. На працягу рабочага дня прадавец павінен сачыць за чыстатой рабочага месца і знаходзячагася ў яго інвентара.

39. Усе прадаўцы абавязаны штомесячна падвяргацца медычнаму агляду.

Новыя работнікі прымаюцца на работу ў магазін толькі пасля праходжання медычнага агляда.

40. Прадаўцы павінны пастаянна сачыць за чыстатой рук, нагцей, каротка астрыгаючы апошнія. Пры рабоце прадаўцы павінны быць у чыстай сан. вопратцы. У магазіне павінна быць не менш 3-х камплектаў сан. вопраткі на кожнага прадаўца. Пры ўсякіх адлучках з месца работы сан. вопратка здымаецца.

41. У магазіне павінен быць умывальнік з мылам, ручніком і шчоткай для рук.

42. Курыць у магазіне забараняецца, аб чым павінна быць вывешана аб'ява на відным месцы.

43. Гандлюючыя арганізацыі, у веданні якіх знаходзяцца магазіны, палаткі ці аддзяленні, гандлюючыя цукрам, абавязаны, давесці гэтыя правілы да ведама ўсіх работнікаў гэтых магазінаў, палатак ці аддзяленняў.

# Вінаватыя ў дрэннай пастаноўцы гандлю мясам панеслі заслужанае пакаранне

## ЗАГАД

### па Народнаму Камісарыяту Ўнутранага Гандля БССР № 442 ад 19/XII—1935 г.

Масавай праверкай мясной сеткі (10—14 снежня) зноў выяўлены недахопы. На падставе прадстаўленых матэрыялаў загадваю:

1. Загадчыку магазінам № 6 Ваенгандля т. Пеўзнеру за адсутнічанне прэйскуранта цэн, правіл гандля мясам, непісьменныя і неразборчыва напісаныя ярлыкі цэн і адсутнасць табліц з прозвішчамі прадаўцоў—абвясціць вымову. Прапанаваць т. Пеўзнеру неадкладна знішчыць гэтыя недахопы.

2. Папярэдзіць заг. мясной секцыі магазіна № 34 ОРС'а ДН-3 тав. Бруднера, што будучым за курэнне пры водпуску мяса ён будзе ад працы адхілен. У магазіне вывесіць аб'яву аб забароне курыць.

3. Заг. мясным аддзелам магазіна № 1 „Гастранома" т. Дукорскаму за атсутнасць кнігі скаргаў і табліцы прозвішча адказнай асобы за разрубку мяса—абвясціць вымову.

4. Прадаўшчыцу Сіроткіну мясного аддзела магазіна № 61 Горспажыўсаюза, як ужо папярэджаную загадам ад 28/XI—за паўторныя заўвагі (выстаўленне ярлыка цэн на бараніну к мясу гавяжаму, адсутнічанне ярлыкоў цэн на трусоў),—як не справіўшуюся—з работы зняць.

5. Заг. магазінам № 74 Горспажыўсаюза т. Пінхасік за дапушчаную гразь у магазіне (пятна крыві на сцяне, наяўнасць асколкаў дрэва і гразі ў рыбнай ікры, грязныя гіры, хаванне трусоў і касцей на граэнай падлозе)—з работы зняць.

Прадаўцу т. Соркіну абвясціць суровую вымову з папярэджаннем. Прапанаваць Горспажыўсаюзу прыняць неадкладныя меры па захаванню санітарнага ўтрымання магазіна і ўкамплектавання яго кадрамі.

6. Заг. магазінам № 37 Менхарчгандля т. Слуцкер за выяўленыя ў кладовай магазіна 6 штук трусоў вышэйшай упітанасці, якія ён схаваў для свайго асабістага спажывання пры адсутнічанні трусоў у продажы—з работы зняць.

7. Прадаўцу магазіна № 41 Менхарчгандля т. Серабранскаму за адсутнічанне бараніны ў рабочым месцы пры наяўнасці яе ў кладовай магазіна—абвясціць вымову.

# РАБОТУ ГАРАДСКІХ МАГАЗІНАЎ—НА ГАСПАДАРЧЫ РАЗЛІК

## ПАСТАНОВА

### Народнага Камісарыята Ўнутранага Гандля БССР

30 снежня 1935 г. **№ 986** г. Менск

Кіруючыся пастановай Наркамунутгандля СССР ад 1/IX—35 г. № 838 аб пераводзе магазінаў на дзяржразлік—Наркамунутгандаль БССР пастанаўляе:

1. Перавесці гарадскія прод. і промтаварныя магазіны на дзяржразлік з аднясеннем паказаных магазінаў на 3 катэгорыі:

| Гандлюючыя сістэмы | I катэгорыя | | II катэгорыя | | III катэгорыя | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | №№ маг. | Зварот у месяц | №№ магазінаў | Зварот у месяц | №№ магазінаў | Зварот у месяц |
| **1. Белхарчгандаль** | | | | | | |
| а) Па Менску | 27 | 150 тыс. | 9 | 200 тыс. | 52 | 333 тыс. |
| | 30 | 110 „ | 23 | 200 „ | — | |
| | 51 | 125 „ | 29 | 275 „ | — | |
| | 38 | 108 „ | 53 | 200 „ | — | |
| б) Па Віцебску | — | — | 60 | 233 „ | — | |
| | | | 25 | 270 „ | — | |
| в) Па Гомелю | — | — | 45 | 256 „ | — | |
| | | | 27 | 200 „ | | |
| **2. Белторг** | | | | | | |
| а) Па Менску | 3 | 250 тыс. | — | — | | |
| б) Па Віцебску | — | — | — | — | Універмаг ЦРК | 800 тыс. |
| в) Па Гомелю | — | — | — | — | Універмаг Белганд. | 500 тыс. |
| **3. Горспажыўсаюз** | | | | | | |
| а) Па Менску | — | — | 82 | 250 тыс. | | |
| УСЯГО: | 5 | — | 9 | — | 3 | — |

2. Паказаныя магазіны маюць наступныя элементы дзяржразліка:

**І-я катэгорыя:**

Самастойны баланс, права праводзіць закупкі ў парадку падсартыроўкі асартымента і заключэння разавых здзелак. Для гэтых магазінаў у гандлёвай арганізацыі адчыняецца ўнутраны разліковы рахунак. Зваротныя сродкі ў даным выпадку магазіну не выдзеляюцца, а гандлёвая арганізацыя вызначае штомесячны размер (ліміт) патрэбных магазіну сродкаў на аплату закупак і адміністрацыйна-гаспадарчых выдаткаў. Арганізацыя праводзіць аплату рахункаў па здзелкам, заключаным магазінам, а таксама па гаспадарчым выдаткам праз унутраны разліковы рахунак у бухгальтэрыі ў самой гандлёвай арганізацыі.

**ІІ-я катэгорыя:**

Самастойны баланс, уласныя зваротныя сродкі, права заключэння самастойных здзелак са збытавымі арганізацыямі прамысловасці, трэстамі, фабрыкамі, заводамі, Кустпромкааперацыяй і г. д., Гандальфінплан данага магазіна павінен прадугледзець не менш 20—25% самастойных закупак. Акрамя гэтага, гэтыя магазіны маюць самастойны разліковы рахунак у банку, праз які магазін праводзіць аплату рахункаў сваіх пастаўшчыкоў і інш. выдадкаў.

**ІІІ-я катэгорыя:**

Найбольш буйныя магазіны, побач з усімі элементамі дзяржразліку, як і магазіны 2-й катэгорыі, акрамя гэтага, маюць права непасрэднага крэдытавання ў банку.

3. Прапанаваць гандлюючым арганізацыям: Белхарчгандлю, Белгандлю і Горспажывусаюзу даць адпаведныя паказанні па паасобным гандлюючым арганізацыям (арганізацыя ўчота, афармленне разлікаў з банкам і г. д.) з тым, каб не пазней 10/І—36 г. поўнасцю перавесці паказаныя магазіны на дзяржразлік.

4. Прасіць Дзяржбанк даць адпаведныя паказанні сваім філіялам у Віцебску і Гомелі аб афармленні арганізацый разліковых рахункаў.

5. Дырэктарам Торгаў і Горспажывусаюзу узяць пад свой асабісты нагляд работу гэтых магазінаў, прымацаваўшы адказных работнікаў для дапамогі і вывучэння вопыта іх работы з тым, каб на вопыце 2-месячнай работы гэтых магазінаў падвесці вынікі для далейшага пашырэння колькасці магазінаў, пераведзеных на дзяржразлік.

Нарком Унутранага Гандля БССР **Н. Гурэвіч**

# Аб устанаўленні аб'ёмных мер пры продажу піва і безалкагольных напіткаў

(*З пастановы Наркамунутгандля БССР*)

Усім гандлюючым арганізацыям і арганізацыям грамадскага харчавання продаж піва і розных безалкагольных напіткаў (распівачна) праводзіць у існуючых куфлях малога размера, аб'ёмнай вагой не 0,25, а 0,2 літра.

Прэдзелам наліва павінен служыць паясок, маючыйся на гэтых куфлях.

На аснове ўстаноўленых новых аб'ёмных мер (0,2 літра), неадкладна пераглядзець продажныя цэны на піва і розныя воды, прадставіўшы іх для зацверджання Наркамунутгандлю.

Захоўваючы аб'ёмную меру вялікіх куфляў—0,5 літра і ўстаноўленыя цэны, усім арганізацыям зрабіць на іх адзнакі (вытраўкай), якія паказваюць прэдзел наліва.

Падрыхтаваць стандартныя плакаты з указаннем цэн, аб'ёмнай меры і прэдзелаў наліва, якімі забяспечыць усю гандлюючую сетку.

На ўсіх цыліндрах па водпуску сіропаў у гандлюючай сетцы зрабіць дэталёвую градыроўку з дзяленнямі на 5, 10, 15, 20, 25 *куб. см*, скончыўшы гэтую работу не пазней 1 сакавіка 1936 г.

Водпуск сіропаў, натуральных сокаў і штучнага—праводзіць з асобных спецыяльных цыліндраў.

Даручыць Менхарчгандлю і Горспажывусаюзу ўстанавіць у асобнай сетцы (па 5—6 магазінам) дазіровачныя прылады па водпуску сіропаў, вырабіўшы іх гаспадарчым парадкам.

Усю гэту работу скончыць не пазней 15 красавіка 1936 г.

Нарком Унутранага Гандля БССР
**Н. Гурэвіч**

# За перабоі ў гандлі соллю віноўныя прыцягнуты да адказнасці

**ПАСТАНОВА**

**Народнага Камісарыята Унутранага Гандля БССР**

20 снежня 1935 г. **№ 939** г. Менск

Праведзенай праверкай гандлёвай інспекцыяй СССР па БССР насычанасці гандлёвай сеткі Пухавіцкага і Смілавіцкага раёнаў соллю, выяўлена наступнае:

**1. Па Пухавіцкаму раёну:**

Адсутнічае соль у магазіне № 56 Белгандля і крамах №№ 1 і 2 Блонскага сельпо.

**2. Па Смілавіцкаму раёну:**

Адсутнічае соль у краме № 75 Менхарчгандля, а таксама ў краме Пухавіцкага ОРС'а Лестрангаса.

Выходзячы з гэтага, Народны Камісарыят Унутранага Гандля БССР пастанаўляе:

1. Прыняць да ведама заяву Ўпаўнаважанага Дзяржаўнай Гандлёвай Інспекцыі пры НКУГ СССР па БССР т. Левіна аб тым, што віноўныя ў адсутнасці солі ім прыцягнуты да адказнасці.

2. Указаць дырэктару Менгандля т. Бранштэйну і Менхарчгандля т. Хейфецу, што не гледзячы на цэлы шэраг пастаноў НКУГ аб арганізацыі бесперабойнага гандля дастатковымі таварамі, усё-ж да гэтага часу ёсць выпадкі адсутнасці солі ў іхняй сетцы.

3. Прапанаваць тт. Бранштэйну і Хейфецу наладзіць сістэматычны кантроль за ходам бесперабойнага гандля соллю ў гандлёвай сетцы.

Нам. Наркома Ўнутранага Гандля БССР
**І. Верба**

# ЦЭНЫ

## Рознічныя цэны на муку пшанічную паніжаны

**ПАСТАНОВА**

**Народнага Камісарыята Ўнутранага Гандля БССР**

25 снежня 1935 г. **№ 953** г. Менск

На падставе тэлеграмы Саюзнаркамунутгандля № 726, Народны Камісарыят Унутранага Гандля БССР пастанаўляе:

1. Устанавіць з 1-га студзеня 1936 г. паніжаную рознічную продажную цану на муку пшанічную 75%-га памола — 2 р. 90 к. за кгр., замест раней існаваўшай—3 р. 20 кап.

На муку пшанічную 30%-га памола—4р. 60 к. за кгр., замест раней існаваўшай—5 р. 10 к.

2. Скідку ў карысць гандлюючых арганізацый заставіць у дзейнічаючым абсалютным размеры да зніжэння.

3. Пераацэнку астаткаў мукі ў гандлюючых арганізацыях і прадпрыемствах грамадскага харчавання правесці па актах зняцця астаткаў 31 снежня за подпісам: па дзяржгандлю—заг. магазінам і прадстаўнікам дырэкцыі Торга, па спажывецкай кааперацыі—загадчыкам магазінам і членам рэўкамісіі сельпо, гарпо, па ОРС'ам загадчыкам магазінам і прадстаўнікам рабочага кантроля прадпрыемства, па прадпрыемствам грамадскага харчавання—загадчыкам сталоўкі і прадстаўнікам рабочага кантроля.

4. Розніцу ад пераацэнкі паказаных сартоў мукі ў гандлюючых арганізацыях і прадпрыемствах грамадскага харчавання аднесці за рахунак дзяржбюджэта.

Народны Камісар Унутранага Гандля БССР
**Н. Гурэвіч**

---

## Аб цэнах на баваўняна-папяровыя і ільняныя тканi, марлю, скураны, гумавы, валены, фетра-фільцавы абутак, швейныя і аўчына-шубныя вырабы

**ПАСТАНОВА**

**Народнага Камісарыята Ўнутранага Гандля БССР**

29 снежня 1935 года **№ 971** г. Менск

У адпаведнасці з тэлеграмай Саюзнаркамунутгандля № 15397, Народны Камісарыят Унутранага Гандля БССР пастанаўляе:

1. Устанавіць, што з 1 студзеня 1936 года адмяняецца водпуск баваўняна-папяровых, ільняных тканей, марлі, скуранага, гумавага, валенага і фетра-фільцавага абутка, швейных і аўчына-шубных вырабаў—усім спажыўцам дзяржаўнай прамысловасці па нармiраваным цэнам.

2. Усе пералічаныя вырабы ў рознічным гандлі з 1 студзеня 1936 года рэалізаваць па зараз дзейнічаючых камерцыйных цэнах.

3. Водпуск гэтых тавараў усім гандлюючым арганізацыям, для індывідуальнага пашыва, а таксама ўнерыначным спажыўцам, пачынаючы з 1 студзеня праводзіць па камерцыйных цэнах з залікам дзейнічаючай гандлёвай скідкі.

4. Шарсцяныя тканi адпускаць усім спажыўцам рыначнага і ўнерыначнага фондаў па адзіных адпускных цэнах.

5. Пераацэнку вышэйпаказаных промтавараў нарміраванага фонда ва ўсіх аптовых і рознічных звеннях тавараправодзячай сеткі праводзіць на падставе актаў зняцця таварных астаткаў, завераных па дзяржгандлю—загадчыкам магазінам і прадстаўнікам дырэкцыі Торга; па спажывецкай кааперацыі загадчыкам магазінам і членам рэв. камісіі ЗРК, сельпо; па ОРС'у—загадчыкам магазінам і прадстаўнікам рабочага кантроля.

Розніцу ад пераацэнкі астаткаў нармальнага фонда ўнесці ў дзяржбюджэт.

6. Прынятыя заказы на індывідуальны пашыў да 1/I—36 г. пераацэнцы не падлягаюць.

Нарком Унутранага Гандля БССР
**Н. Гурэвіч**

---

## Цэны на піражкі з мясным фаршам

**ПАСТАНОВА**

**Народнага Камісарыята Ўнутранага Гандля БССР**

17 снежня 1935 г. **№ 920** г. Менск

Народны Камісарыят Унутранага Гандля БССР пастанаўляе:

1. Зацвердзіць рэцэптуру і адпускную цану на піражкі з мясным фаршам з мукі 75 проц. пам.:

вагой 100 грам—46 кап. за шт.
„ 50 „ —25 „ „

Рознічную продажную цану ўстанавіць на піражок:

вагой 100 грам—50 кап. за шт.
„ 50 „ —28 „ „

2. Абавязаць Мясакамбінаты адпускаць гандлюючым арганізацыям піражкі з мясным фаршам у гарачым відзе.

Нарком Унутранага Гандля БССР **Н. Гурэвіч**

## ПРОДАЖНЫЯ ЦЭНЫ НА КАПУСТУ ПРОВАНСАЛЬ І ЯБЛЫКІ

**ПАСТАНОВА**

**Народнага Камісарыята Ўнутранага Гандля БССР**

25 снежня 1935 г. **№ 961** г. Менск

Народны Камісарыят Унутранага Гандля БССР пастанаўляе:

Устанавіць продажную цану на капусту правансаль, выпрацоўваемую Менскім Плодатрэстам—1 р. за кгр. і на вінегрэт—1 р. 10 к. за кгр.

Нам. Наркома Ўнутранага Гандля БССР
**І. Вэрба**

## Адпускныя цэны на павідла, варэнне і джэм

**ПАСТАНОВА**

**Народнага Камісарыята Ўнутранага Гандля БССР**

21 снежня 1935 г. **№ 947** г. Менск

Народны Камісарыят Унутранага Гандля БССР пастанаўляе:

1. Устанавіць адпускную цану на прадукцыю, выпрацоўваемую прадпрыемствамі Наркаммясцпрома БССР—Белплодагародніны, Белкаапплодагародніны, Белхарчпромсаюза, Белкаапінсаюза, па паясах у рублях і капейках за кгр. (фр.-завод).

| | I пояс | | II пояс | | III пояс | | IV пояс | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Павідла яблычнае | 3 | 05 | 3 | 25 | 3 | 35 | 3 | 65 |
| „ клюквен. і брусн. | 3 | 40 | 3 | 65 | 3 | 85 | 4 | 00 |
| „ слівачнае | 3 | 65 | 3 | 85 | 4 | 00 | 4 | 15 |
| Джэм клюквен. і бруснічны | 3 | 45 | 3 | 80 | 3 | 90 | 4 | 25 |
| „ фруктова-слівачны | 3 | 70 | 3 | 90 | 3 | 90 | 4 | 40 |
| „ яблычны і грушавы | 3 | 30 | 3 | 60 | 3 | 70 | 4 | 10 |
| Яблыкі ў сіропе | 3 | 30 | 3 | 50 | 3 | 60 | 3 | 90 |
| Варэнне клубн. і малін. | 4 | 15 | 4 | 35 | 4 | 45 | 4 | 85 |
| „ вішнев. і слівачн. | 3 | 80 | 3 | 92 | 4 | 10 | 4 | 60 |
| „ бруснічнае | 3 | 70 | 3 | 90 | 4 | 10 | 4 | 30 |
| „ грушавае | 3 | 50 | 3 | 70 | 3 | 90 | 4 | 10 |
| Жэле яблычн. і клюквен. | 3 | 80 | 4 | 00 | 4 | 20 | 4 | 40 |

2. Устанавіць рознічную продажную цану на павідла, варэнне і джэм (у рублях і капейках па II поясу для БССР за кгр.).

| | Горад | | Сяло | |
|---|---|---|---|---|
| Павідла яблычнае | 3 | 65 | 3 | 85 |
| „ клюквен. і брусн. | 4 | 10 | 4 | 25 |
| „ слівачн. | 4 | 30 | 4 | 50 |
| Джэм клюквен. і брусн. | 4 | 25 | 4 | 45 |
| „ фруктова-слівачны | 4 | 40 | 4 | 55 |
| „ яблычны і грушавы | 3 | 70 | 4 | 10 |
| Яблыкі ў сіропе | 4 | 00 | 4 | 15 |
| Варэнне клубн. і малінав. | 4 | 90 | 5 | 05 |
| „ вішнев. і слівачн. | 4 | 40 | 4 | 60 |
| „ бруснічнае | 4 | 40 | 4 | 60 |
| „ грушавае | 4 | 15 | 4 | 30 |
| Жэле яблычн. і клюквен. | 4 | 45 | 4 | 60 |

3. Пры фасоўцы ў шкляных банках каштоўнасць банкі—50 кап. бярэцца дадаткова.

4. Пункт 2, пастановы Наркамунутгандля БССР № 916 аб адпускных рознічных цэнах на павідла, варэнне і джэм—адмяніць.

Нам. Наркома Ўнутранага Гандля БССР

**І. Верба**

## Рознічныя цэны на малочна-кіслыя прадукты, спажываемыя на месцы продажу

**ПАСТАНОВА**

**Народнага Камісарыята Ўнутранага Гандля БССР**

16 снежня 1935 г. **№ 918** г. Менск

На падставе тэлеграмы Саюзнаркамунутгандля за № 721,—Народны Камісарыят Унутранага Гандля БССР пастанаўляе:

У адмену распараджэння Аддзела арганізацыі сеці і рэгулявання цэн НКУГ БССР № 72 ад 11/VI—35 г. устанавіць наступныя рознічныя цэны на малочна-кіслыя продукты з спажываннем на мясцох продажу ў магазінах і кіёсках буфетнага тыпа.

| | Адзінка вымер. | Цана. руб. | кап. |
|---|---|---|---|
| Сметана І-шы гатунак | кгр. | 7 | 35 |
| „ II-гі „ | „ | 6 | 25 |
| „ III-ці „ | „ | 5 | 25 |
| Тварог І-шы гатунак | „ | 1 | 80 |
| „ II-гі „ | „ | 1 | 60 |
| Сырковая маса І гатунак | „ | 3 | 90 |
| „ „ II „ | „ | 3 | 30 |
| Сыркі салодкія 100 грам | штук. | | 47 |
| Простакваша расф. 180 грам. | „ | | 29 |
| „ „ 200 „ | „ | | 34 |
| Кефір расф. бут. 330 гр. | | | 56 |
| Сліўкі разліўн. бут. 1 літр | | 4 | 15 |
| „ „ „ 0,5 „ | | 2 | 25 |
| „ „ „ 0,25 „ | | 1 | 12 |
| Мяккі сыр тыпа камемберг у каробках 500 грам | | 3 | 15 |
| Цукатны сыр | кгр. | 9 | 10 |
| Крэм шакаладн. 250 грам | | 2 | 90 |
| „ слівачны 250 грам | | 2 | 77 |
| Сырок тмінны | | 2 | 30 |
| „ салодкі творож. 500 грам | | 3 | 90 |
| „ слівачны цукат 250 грам | | 2 | 95 |
| Сырок шакаладн. 250 грам | | 3 | 10 |
| „ з какао 250 грам | | 3 | 10 |
| „ дзіцячы 250 грам | | 2 | 80 |

Адзначаныя цэны не распаўсюджваюцца на рэстараны і кафэ, дзе цэны на гэтыя прадукты калькуліруюцца як на іншую кухонную прадукцыю.

Нарком Унутранага Гандля БССР

**Н. Гурэвіч**

## Рознічная продажная цана апельсінаў

*(З пастановы Наркамунутгандля БССР)*

Устанавіць рознічную продажную цану на апельсівы (яфскія) за штуку (у рублях і капейках):

| Чотка (утрыманне ў аднэй скрыні ў штуках) | Цана за штуку. |
|---|---|
| 80 | 4—00 кап. |
| 100 | 3—50 „ |
| 120 | 3—00 „ |

Народны Камісар Унутранага Гандля БССР

**Н. Гурэвіч**

Выданне Наркамунутгандля БССР—Дом Урада, 4-й паверх, пак. 405, тэл. 23-287.

Адк. рэдактар І. І. Верба. Адк. сакратар рэдакцыі В. Адлерштэйн.

Школа ФЗВ друкарні ім. Сталіна. Зак. 54. Тыраж 750 экз. Галоўлітбел № 3203.